Бог, Беларусь, Воля!

# Голас Краю

№7-8, ліпень-жнівень 2000 | газэта беларускіх нацыяналістаў | кошт 70 рублёў

## Адзін дзень на вышкале

рэпартаж пра чарговы вышкал арганізацыі «Край» **с.2**

## Страчаная незалежнасьць

Як мы гублялі сваю незалежнасьць **с.4**



## Інтэрв'ю з вышкалу

Гутарка з бардам Андрэем Мельнікавым **с.7**



## Адзін эпізод нацыянальнай здрады **с.8**

**«Твая Радзіма – Беларусь. Любі яе перадусім і больш справай чым на словах»**


Дысцыпліна – аснова арганізацы і сілы

# Адзін дзень на вышкале

**У першай палове жніўня адбыўся чарговы палявы вышкал СПА "КРАЙ". Акрамя фізычных заняткаў, гутарак з цікавымі гасьцямі, сьпеваў ля вогнішча, краёўцы наведалі м. Зэльву, дзе ўдзельнічалі ў сьвяткаваньні 90-годзьдзя з дня нараджэньня беларускай паэткі Ларысы Геніюш.**

Для аздараўленьня і загартоўкі сваіх сяброў СПА "КРАЙ" перыядычна ладзіць вышкалы ў гістарычных месцах Беларусі. Фізычныя трэніроўкі, размовы і сьпевы ля вогнішча дапамагаюць прыхільнікам арганізацыі бліжэй пазнаёміцца з "КРАЕМ", зь яго законамі і прынцыпамі, даведацца пра пазыцыю арганізацыі адносна становішча ў краіне, атрымаць новыя веды па гісторыі, культуры Беларусі.

У праграме вышкалу пераважалі выступы на гістарычныя, палітычныя, юрыдычныя і культурныя тэмы выбітных дзеячоў беларускага руху, сьпевы пад гітару патрыятычных песьняў. Краёўцы таксама прынялі ўдзел у сьвяткаваньні 90-годзьдзя з дня нараджэньня паэткі Ларысы Геніюш.

Кожны дзень на вышкале звычайна пачынаецца з ранішняй руханкі. Бег з


Удзельнікі вышкалу на магіле Л.Геніюш

аголеным торсам па яшчэ сонным лесе пакідае незабыўнае ўражаньне. Росныя галіны дакранаюцца да цела і абуджаюць жыцьцёвую сілу. Сьвежае паветра напаўняе грудзі і жывіць цела. Краёўцы бягуць адзін за адным, пераадольваючы ўсе перашкоды на сваім шляху. Бягуць роўна і ўпэўнена, насустрач сонцу. Калёна імкліва рухаецца наперад, пакінуўшы клопаты і сум у мінулым.

Аб'яднаныя сьвятой мэтай вызваленьня Айчыны, краёўцы вучацца перамагаць. А як вядома, цяжэй за ўсё перамагчы сябе.

Калёна спыняецца на лясной палянцы. Хлопцы пачынаюць выконваць агульнаразьвіваючыя і сьпецыяльныя практыкаваньні на ўмацаваньне духу і цела. Потым група вяртаецца ў табар.

Ранішняя малітва. Інструктаж і паведамленьне праграмы дня. Сьняданак.

Пасьля сьняданку адбываюцца гаспадарчыя працы па ўпарадкаваньні табару, нарыхтоўка дроў. Потым пачынаецца лекцыя па ідэялёгіі, прынцыпах, законах арганізацыі, адказы на пытаньні.

Далей да абеду працягваюцца фізычныя заняткі.

Пасьля абеду адбываецца лекцыя ці размова на пэўную тэму. Хлопцы і дзяўчаты разважаюць, супастаўляюць факты, робяць высновы, выказваюць свае меркаваньні. Такім чынам вучацца слухаць, думаць і прамаўляць.

І зноўку пачынаюцца трэніроўкі, якія працягваюцца да самай вячэры. Па вячэры – культурная праграма, працягваюцца шчырыя размовы, сьпевы ля вогнішча, выступы гісторыкаў.

**Валковіч**

**«Змагацца за волю ёсьць шчасьце»**
Л.Геніюш

# МОЙ ПЕРШЫ ВЫШКАЛ


перамога куецца тут

Абаронцы Краю павінны быць моцнымі

**Н**а гэты вышкал зьехаліся хлапцы і дзяўчаты з усёй Беларусі. Большая частка ўдзельнікаў, у тым ліку і я, былі на мерапрыемстве такога кшталту ўпершыню. Уражаньняў ад жыцьця ў лесе і заняткаў вельмі шмат.

Звычайна дзень на вышкале пачынаецца з ранішняга пад'ёму ды руханкі: прабежка, адцісканьне, прэс, агульнаразьвіваючыя практыкаваньні… Потым сьняданак. На стале зь бярвеньняў каша, гарбата. Пасьля гутаркі пачынаецца асноўная частка праграмы – паласа перашкод. Яма, бар'ер, сьцяна, бервяно, путанка, поўзанка, "супэр хіт сезону – траншэя". Потым яшчэ, яшчэ і яшчэ. Тая ж паласа, толькі з тактычным праходам (адзін праходзіць, другі прыкрывае). Наступнае – фізычная прагрэсія, самая любімая рэч усіх хлопцаў. Потым заняткі рукапашным боем. Рэч зусім не складаная, але патрабуе настойлівасьці і сілы. Ізноў паласа. Зараз бы пад'есьці! Вось і абед. Чытаецца лекцыя па гісторыі. Зноў палявыя заняткі. Зноў адцісканьне, прэс, паласа… Ого, ня слаба! Вячэра. Гутарка. Адбой. Першая думка: "што я тут забыўся?"

Але надыходзіць другі дзень. Здаецца, што ўжо вольнага часу больш. Адцісканьне ўжо не прыносіць такіх пакутаў. Бот, які ходзіць па прэсе, ужо не такі цяжкі. Прызвычаіўся.

Як я зразумеў, гэты вышкал быў не зусім звычайны. У наш табар спачатку прыехаў вядомы беларускі бард Андрэй Мельнікаў, а потым пачалі пад'язджаць іншыя цікавыя людзі. У асноўным размаўлялі аб палітыцы, культуры, гісторыі. Вечарамі барды сьпявалі свае песьні. Адзін зь іх нават прысьвяціў адну са сваіх песень сябрам "Краю", чым усе былі прыемна зьдзіўлены.

Наш вышкал скончыўся ўрачыстым зьняцьцем арганізацыйнага сьцяга.

Нядоўгі сон. Пад'ём у чатыры гадзіны ночы, складваньне рэчаў, згортваньне табару. Усё скончылася. Бот больш не ціснe на прэс. Але засталося нейкае адчуваньне суму і жаданьне паўтарыць гэтыя выпрабаваньні яшчэ. Дык паўтару!

Пашкевіч

**«Будуем арганізацыю "Край" на трох асноўных "кітах": Нацыянальная Ідэя, Сіла, Дысцыпліна»**

# СТРАЧАНАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

У пачатку 90-х гадоў уся краіна дыхала незалежнасьцю. Шматтысячныя акцыі пратэсту грымелі па ўсёй Беларусі, гэта быў сапраўдны выбух грамадзкай актыўнасьці: мітынгі, забастоўкі, пікеты, спрэчкі. Пасьля шматгадовага сну Беларускі Народ фармулюе палітычныя патрабаваньні да прыгнятальнікаў: "незалежнасьць", "свабода", "дзяржаўнасьць". Партнаменклатура ў разгубленасьці. Партакраты бягуць, як пацукі з карабля пад назвай "савецкая імпэрыя", прыхапіўшы з сабой шматлікія каштоўнасьці. А тыя, хто своечасова зарыентаваўся, назвалі сябе дэмакратамі і абвясьцілі рэформы. Стыхійны нацыяналізм пранік ва ўсе сфэры грамадзка-палітычнага жыцьця і ахапіў шырокія колы грамадзтва, уключаючы чынавенства вышэйшага ўзроўню. У эйфарыі свабоды дэмакраты-наменклатуршчыкі прымаюць адзін за адным рэвалюцыйныя для таго часу законы аб незалежнасьці, мове, дзяржаўнай сымболіцы. Рух БНФ, які стаў ініцыятарам і натхняльнікам той рэвалюцыі (найперш рэвалюцыі сьвядомасьці) 1991 года, адпачывае на лаўрах і паступова занепадае. Камуністычныя босы тым часам перагрупавалі свае сілы і залізалі раны ад сакрушальных удараў.

Сьціхаюць спрэчкі, людзі тысячамі адыходзяць ад грамадзкіх спраў і вяртаюцца да асабістых клопатаў. Эмацыйны нацыяналізм масаў саступае месца інтарэсам ніжэйшага парадку. "Ідэяй сыты ня будзеш" – разважаюць некаторыя. Электарат апазыцыі імкліва скарачаецца. Наменклатура прагне рэваншу і ўмацоўвае свае пазыцыі. Згоднік Шушкевіч церпіць паразу і ў 1994г. саступае пасаду старшыні Вярхоўнага Савета Мечыславу Грыбу. Кебіч і яго людзі перахапілі ініцыятыву. На маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбарах Кебіч пляную атрымаць перамогу, таму Канстытуцыя складаецца адмыслова пад яго. Але атрымалася па-іншаму. У выніку вялікай прадвыбарчай афёры на пасаду прэзыдэнта ўскочыў Лукашэнка. Імгненны ўзьлёт вялікаха махляра і прайдзісьвета быў санкцыянаваны расейскай ФСБ. З гэтага моманту Беларусь губляе апошнія прыкметы незалежнасьці. Зганьбаваныя сымбалі нацыі – сьцяг, герб, мова. Прапагандовая машына Лукашэнкі пачынае наступ на ўсё беларускае ў адукацыі, культуры, у грамадзка-палітычнай сфэры. Сотнямі зачыняюцца беларускія клясы. Скрачаюцца праграмы фінансаваньня нацыянальнай культуры. Замест гэтага насаджаецца вульгарная расейшчына. Усімі праўдамі й няпраўдамі звужаецца сфэра ўжываньня дзяржаўнай мовы. У абласных гарадах не засталося ніводнай беларускай школы. Ніводнай! Няма ні сярэдне-спэцыяльных, ні вышэйшых беларускіх навучальных установаў. Бацькі дзяцей, што навучаюцца па-беларуску, баяцца за іх будучыню. Пра якую роўнасьць моў ідзе гаворка, калі на Беларусі нельга атрымаць адукацыю на роднай мове? Зачыняюцца недзяржаўныя выданьні ("Свабода", "Навіны"). Цэнзуры падлягаюць не толькі дзяржаўныя выданьні, але і тыя, што карыстаюцца паслугамі дзяржаўных выдавецтваў. Бясконцыя папярэджаньні, пагрозы зачыніць з боку Дзяржкамдруку спарадзілі самацэнзуру.



"Незалежнасьць свайго народу нельга выпрасіць, ня вытаргуюць яе і дыпляматы, яе можна здабыць толькі збройна".
Янка Філістовіч

Змаганьне з усім беларускім – афіцыйная палітыка ўладаў.

Але на гэтым наступ лукашызму не спыняецца. Ён спрыяе аднаўленьню сталінскіх парадкаў. Татальны кантроль улады за ўсімі сфэрамі жыцьця і грамадства выклікае ў людзей пачуцьцё страху. Яны занепакоены сваёй будучыняй. Людзі баяцца выказваць свае думкі. Нават сваіх дзетак бацькі вучаць маўчаць. Але маўклівы страх не дае свабоды, дабрабыту, здароўя. Страх не робіць людзей шчасьлівымі.

Працягвае пагаршацца эканамічная сытуацыя ў краіне з-за злачыннай дзейнасьці Лукашэнкі і іншых "эканамістаў" кшталту Пракаповіча. Пагаршаецца экалягічная сытуацыя. Скарачаецца фінансаваньне аховы здароўя і аздараўленьня беларускіх дзяцей, што пацярпелі ад радыяцыі. А пацярпелі літаральна ўсе. Лукашэнкаўскае чынавенства працягвае раскрадаць гуманітарную дапамогу, што прыходзіць з-за мяжы. Для гэтага нават створаны адмысловы камітэт.

Палітыка зьнішчэньня Беларускага Народу працягваецца з нарастаючымі тэмпамі. Спыніць гэтую палітыку нам па сілах. Для гэтага трэба здабыць Беларускую Незалежную Нацыянальную Дзяржаву.

***Працяг тэмы – на с.5***

## Шаноўныя чытачы!

Каб атрымаць «Голас Краю», дастаткова даслаць ліст з замовай на адрас рэдакцыі (220037, Менск, а/с 49). У замове трэба пазначыць імя, прозьвішча і адрас. Кошт аднаго нумару 70 рублёў.

Цяпер «Голас Краю» можна набыць у сядзібе Таварыства беларускай мовы па адрасе вул. Румянцава, 13.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» – газэту беларускіх нацыяналістаў.

**«Вызначаем сучасны стан Беларускага Народу, як паднявольны, а "Рэспубліку Беларусь", як каланіяльнае дзяржаўнае ўтварэньне на беларускай зямлі»**

выхаваньне здаровай моладзі – адна з функцый «Краю»

# НАРАДЖЭНЬНЕ "КРАЮ"



**У** гэтых умовах жыцьцёва неабходным зьяўляецца нараджэньне новай грамадзкай сілы, якая будзе адстойваць інтарэсы Беларускай Нацыі, сям'і і кожнага беларуса. Таму ўвосень 1998 года паўстае арганізацыя "Край". Абвясьціўшы сваёй мэтай стварэньне Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы, арганізацыя актыўна ўключаецца ў грамадзкую дзейнасьць. Нацыяабарончаыя акцыі, вышкалы, выдавецкая дзейнасць арганізацыі паспрыялі пашырэньню нацыянальнай ідэі сярод беларусаў. Выконваючы свае функцыі (выхаваньне моладзі, прапаганда ідэялёгіі нацыяналізма, нацыяабарончыя чыны), арганізацыя "Край" стала вядомай на Беларусі і заручылася падтрымкай значнай часткі патрыётаў. Сёньня арганізацыя не прэтэндуе на ўладу, а займаецца культурніцкай ды выхаваўчай працай: ладзіць летнікі і падарожжы, дзе маладыя беларусы вучацца любіць свой край, свой Народ. Тыя, хто сьмялейшы ды мацнейшы, могуць выпрабаваць сябе на вышкалах (ад слова "шко́ліць", "школа") – адмыслова арганізаваных занятках, што адбываюцца ў лесе. Пад час вышкалаў маладыя хлопцы і дзяўчаты набываюць новыя веды, уменьні. "Край" выхоўвае беларускую эліту, а эліта мусіць быць моцнай ідэйна, духоўна, фізычна. Моцная і здаровая эліта – умова сілы і здароўя Нацыі.

Ня гледзячы на адсутнасьць сталага фінансаваньня, вялікай рэсурснай базы, СПА "Край" стала значнай зьявай жыцьця беларускага грамадзтва. Паступовае пашырэньне ўплыву арганізацыі садзейнічае нараджэньню сьветапогляднага руху за рэальную незалежнасьць і сапраўдную дзяржаўнасьць Беларускага Народа.

Сёньня ўсё пачынаецца. Наперадзе нас чакаюць вялікія падзеі і вялкая перамога Беларускай Нацыі. Перамагайце разам з намі!

**Вашкевіч**

**«Прыналежнасьць да Беларускай Нацыі – ня толькі вялікі гонар, але яшчэ і вялікая адказнасць»**

# ДА ПРАБЛЕМЫ ВЫХАВАНЬНЯ МОЛАДЗІ

Наш час духоўнага заняпаду ды маральна-этычнага вакууму грамадзкай сьвядомасьці нясе ў сабе ў першую чаргу жыцьцёвую маргінальнасць моладзі. Але моладзь, як адна з найгалоўнейшых частак грамадства й Нацыі, ня можа існаваць без усеагульнага ідэалу, і калі забытыя ці страчаныя сапраўдныя маральныя, духоўныя, гістарычныя ды іншыя каштоўнасьці чалавека, то на замену ім прыходзяць амаральныя псэўдакаштоўнасьці (наркотыкі, алкаголь, сэксуальная разбэшчанасьць, культ гвалту, крымінал, рэлігійныя сэкты і г.д.). Моладзь, як і ўвесь Народ, шукае Праўду, але з-за недасьведчанасьці губляецца на жыцьцёвым шляху. Паколькі бацькі, на жаль, ня могуць нічога выказаць сваім дзецям наконт духоўнага і маральнга развіцьця, то хтосьці іншы павінен зрабіць гэта. Гэтым іншым павінен быць агульнапрызнаны лідэр. Але, "калі не мы, то хто?". Хто пакажа моладзі правільны шлях, калі не такая ж моладзь? Мы, маладыя беларускія патрыёты, павінны стаць на чале моладзі і павесьці яе за сабою. Для гэтага трэба выразна акрэсьліць тыя прынцыпы, на якіх будзе узгадаванае маладое пакаленьне і адзначыць накірункі дзейнасьці. Мы выхоўваем творцу новага жыцьця, спадкаемцу мінулага, уладара сёньняшняга, будаўніка будучыні.

# ЧАС БАРАЦЬБЫ

Сёньня паўстала маладое пакаленьне нацыяналістаў. Пакаленьне, якое ня спыняць пагрозы і рэпрэсіі акупацыйных уладаў, пакаленьне, якое не запужаць і не спыніць. Гэта моладзь, якая змагаецца за нацыянальную ідэю. Моладзь, якая вырасла ў часы перабудовы, якая бачыла радасьць перамог, бачыла бел-чырвона-белы сьцяг па-над Домам Ураду.

Мы, беларускія нацыяналісты, утварылі арганізацыю "Край", каб перамагчы. А перамагае толькі той, хто змагаецца, таму мы заклікаем усіх беларусаў актыўна адстойваць інтарэсы Нацыі. Менавіта інтарэсы ўсёй нацыі, бо кожны чалавек выконвае сваю місію на Зямлі толькі праз пэўную нацыянальную супольнасьць. Дабро нацыянальнай супольнасьці ёсьць дабром для чалавека і мэтай яго існаваньня.

МЫ, беларусы, маем свой гонар. Нам ня трэба падарункі чужынцаў. Мы падымем Бларусь з калень самі.

Мы ня верым нафталінавым палітыкам, якія далі зганьбіць нашу мову і сымбалі нацыі.

У Бібліі напісана: "Спачатку было слова". Гэта слова нарадзіла ўсё. Каб нарадзіць сілу, здольную бараніць інтарэсы Беларускага Народа, мы пачалі выдаваць газэту "Голас Краю". Мы хочам даць моладзі сілу і веру ў будучыню, якіх так не хапае сёньня. Даць сілы стомленым і расчараваным беларусам для барацьбы на карысьць Нацыі. Мы абудзім усе лепшыя сілы. Усялім у людзей веру ў нашу праўду, у веліч Беларусі і натхнім іх на перамогі. Голас беларускага Краю будзе мацнець дзень за днём.

**Станкевіч**

**падзеі, факты, каментары**

# "Дэмакратычныя" апазыцыянеры ідуць на недэмакратычныя выбары

Частка апазыцыйных дзеячоў здрадзіла пастанове аб байкоце выбараў, прынятай на IV Кангрэсе Дэмакратычных Сілаў, што адбыўся ў чэрвені 2000 года. Яны зьбіраюцца ісьці на недэмакратычныя выбары, арганізаваныя незаконнай уладай. Тады навошта было марнаваць грошы на правядзеньне фарса пад назвай КДС IV? Велізарныя грошы, якіх не стае для рэальнай барацьбы.

Другая частка апазыцыі зьбіраецца выконваць прынятую пастанову – байкатаваць. Для гэтага распрацаваны адмысловы плян: зарэгістраваць сваіх людзей у якасьці назіральнікаў. Як мяркуецца, гэтыя назіральнікі адзначаць шматлікія парушэньні заканадаўства, а значыць, усемагутны Захад не прызнае вынікаў галасаваньня.

Здавалася б, зноўку "аб'яднаная апазыцыя" раскалолася на два лягеры: адныя ідуць на "выбары", а другія (назіральнікі) ім перашкаджаюць. Але ўвесь камізм сытуацыі ў тым, што і тых і другіх фінансуе шчодрая Нямеччына.

Такім чынам, унутрана расколатая апазыцыя зьдзяйсьняе адзін плян.

Што ж гэта за плян? А плян просты. Празаходне-настроеная частка апазыцыі актыўна лабіруе інтарэсы Нямеччыны, якая зацікаўлена ў добрых стасунках з Расеяй і гатова пайсьці на легалізацыю рэжыму Лукашэнкі. Залежная Беларусь у гэтым працэсе зьяўляецца разьменнай манетай. Такі лёс усіх паняволеных краін і народаў.

Ці ёсьць у нас выйсьце? Выйсьце ёсьць! Гэта рэальная барацьба. Гэта байкот!

**«Ты ня жыў, калі жыў дзеля сябе, ты не загінуў, калі памёр за Бацькаўшчыну»**

# ІНТЭРВ'Ю З ВЫШКАЛУ

**Г.К.: Спадар Андрэй, вы даўно ў беларускім руху, былі актыўным яго ўдзельнікам. Дайце, калі ласка, агульную характарыстыку сучаснага становішча нацыянальных партыяў?**

А.Мельнікаў: Беларускія партыі сёньня, на жаль, ня ў лепшым стане. Калі яны здолеюць прыйсьці да здаровай кааліцыі, то ўтвораць моцную апазыцыю. Зьнішчыць рэжым Лукашэнкі яны ня здольныя. Нават аб'яднаўшыся, яны ўтвораць палітычную меншасьць.

**Г.К.: Чаму апазыцыйным партыям не ўдаецца зьмяніць становішча ў краіне?**

А.М.: Як казаў адзін мудры чалавек: "Ніводзін дыктатар не аддае ўладу дабраахвотна". Лукашэнка мае шанцы знаходзіцца пры ўладзе столькі, колькі ён сам сабе адвёў. І магчыма, гэта ня горшы для Беларусі варыянт. Галоўная небясьпека зыходзіць не ад яго, ад тых, хто яго кантралюе. Мяне вельмі непакояць тыя асобы ва ўладзе, якія былі там і пры камуністах, і пры Шушкевічы, Кебічы, і сёньня. Падазраю, што яны застануцца там і пасьля Лукашэнкі.

Галоўнае палітычнае пытаньне: "Як перамагчы іх?". Вельмі падобна, што Расея сёньня паўтарае той шлях, пасьпяховасьць якога правяралася на Беларусі. Тое ж самае змаганьне з СМІ на першым этапе і ўзвышэньне спецслужбаў.

**Г.К.: У ва што вы верыце?**

А.М. Я веру ў тое, што Беларуская Нацыя зможа дабіцца большай вагі ў сьвеце. Я веру ў Беларускую Народную Рэспубліку. Лічу праект "грамадзянства БНР" вельмі перспектыўным.


Бард Андрэй Мельнікаў

**Г.К.: Вы ўдзельнічалі ў першай баявой акцыі СПА "Край", Чарнобыльскім шляху 25 красавіка 1999 года...**

А.М.: Можа быць, удзельнічаў, а можа і не...

**Г.К.: Якія зьмены, на вашую думку, адбыліся ў дзейнасьці арганізацыі "Край"?**

А.М.: Арганізацыя стала больш легальнай. А значыць, павінна зьявіцца, альбо ўжо зьявілася, нелегальнае фармаваньне, якое кіруе дзейнасьцю "Краю". Легальная дзейнасьць мае свае мінусы, але вялікі плюс у тым, што зьяўляецца магчымасьць ахапіць сваёй дзейнасьцю вялікую колькасьць людзей, а значыць, выхаваць больш моладзі ў патрыятычным духу на карысьць Нацыі. Сёньня "Край" ужо легенда беларускага супраціву. Усё большае распаўсюджаньне набываюць чуткі і плёткі пра арганізацыю, якія маюць мітычны зьмест. Таму неабходна распаўсюджваньне даставернай інфармацыі праз друк.

**Даведка**

Андрэй Мельнікаў, беларускі бард. У руху БНФ з 1989 года. У партыю быў кааптаваны ў 1992 годзе як намесьнік старшыні аршанскага БНФ. У 1995 годзе ўступіў у Беларускую партыю "Зялёны мір" (цяпер Экалягічная партыя). У 2000 годзе стаў сябрам Сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада". Актыўна ўдзельнічае ў культурным жыцьці Беларусі.

падзеі, факты, каментары

## Камуніст на тэлевізіі

Паводле распараджэньня Лукашэнкі, галоўны камуніст Беларусі В.Чыкін прызначаны кіраўніком БТ. А яго намесьнікам – Зімоўскі.

Наіўна меркаваць, што новае начальства пачне плянавую беларусізацыю на тэлефізіі. Але пастарому таксама быць ня можа. Новая мятла мяце па-новаму. А значыць, будзе скарачацца беларускамоўнае вяшчаньне. Новыя прызначэньні найперш адаб'юцца на ідэялягічным зьмесьце праграмаў.

## Новы рэферэндум

Каардынацыйная Рада Дэмакратычных Сілаў (ёсьць такая на Беларусі), у якую ўваходзяць асноўныя палітычныя партыі, ладзіць збор подпісаў за рэферэндум у падтрымку "чатырох пунктаў", якія быццам бы зьяўляюцца ўмоваю правядзеньня свабодных выбараў у... незаконны лукашэнкаўскі "Сход". Мяркуецца сабраць 500-600 тысячаў подпісаў у падтрымку рэферэндуму. Дзіўная мэта. Тым больш, што апазыцыя ня верыць у посьпех гэтай кампаніі.

## Сяляне супраць рэжыму

У калгасе "Дрыбінскі" Магілёўскай вобласьці адбылася акцыя пратэсту супраць уладаў, якія ня плоцяць калгасьнікам за пастаўленае малако. На зямлю было выліта 40 літраў малака. Велізарная запазычанасьць працаўнікам (22 000 000 рублёў новымі грашыма) паказвае няздольнасьць уладаў выконваць свае абавязкі. А за няздольнасьць ці нежаданьне трэба адказваць. Чаму з-за злачыннай бяздзейнасьці рэжыму павінны цярпець простыя беларусы?

**«Найвышняй формай жыцьця і адзіным гарантам разьвіцьця Нацыі ёсьць незалежная нацыянальная дзяржава»**

# Адзін эпізод нацыянальнай здрады

## Як Лукашэнка прадаў нафтавую прамысловасьць Беларусі за 400 мільёнаў даляраў

Беларускія нацыяналісты даўно і шмат кажуць пра тое, што наш народ знаходзіцца пад расейскай акупацыяй. Знаходзіцца ўжо ня першы год. І тое, што ў нашай Бацькаўшчыне няма расейскіх танкаў (хоць ёсьць маскоўскія вайсковыя базы), не зьяўляецца сьведчаньнем адсутнасьці жорсткага прыгнёту. Проста сучасны сьвет вынайшаў значна больш эфектыўныя і дасканалыя спосабы кантролю сваіх калёній, чым танкі. Яскравым жа доказам паднявольнага стану Беларускага Народу ёсьць палітыка марыянеткавага каляніяльнага рэжыму, які кіруе сёньня нашай Айчынай. Палітыка акупацыйнага прамаскоўскага рэжыму Лукашэнкі – поўная падтрымка расейскіх інтарэсаў у нашым краі, падтрымка расейскіх эканамічных структураў у Беларусі. Факты, як кажуць, рэч упартая. Вось прыклад для роздуму. Калі сродкі масавай інфармацыі ўсяго сьвету абмяркоўвалі сытуацыю, якая склалася ў выніку падпісаньня Лукашэнкам "інтэграцыйных" дакументаў з Расеяй, калі міліцыя лупцавала на менскіх вуліцах дэманстрантаў, здарылася тое, чаго ўжо ня зможа, мабыць, зьмяніць адхіленьне Лукашэнкі ад улады. Размова ідзе пра перадачу Расеі самага вялікага ў Эўропе завода па перапрацоўцы нафты – вытворчага аб'яднаньня "Нафтан" у г.Наваполацку. І аддалі яго не за даўгі, а "проста так", пад "інвестыцыі". Для таго, каб лепш усьвядоміць сутнасьць таго, што адбылося, прывядзем некалькі фактаў. У Наваполацку злучаюцца два магістральныя нафтаправоды: "Сургут – Полацк" і "Самара – Віндава", сумарная гадавая магутнасьць якіх перавышае 50 мільёнаў тон (1/5 расейскага экспарту за год). Завод займае выгаднае становішча на рэгіянальным рынку нафтапрадуктаў. У межах 250-300 км ад Наваполацку знаходзяцца буйныя прамысловыя цэнтры: Віцебск, Менск, Магілёў, Пскоў, Смаленск, Коўна, Вільня, Дзьвінск, Рыга, а ў межах 500-600 км – Масква, Пецярбург, Талін, Калінінград, Кіеў. Завод можа перапрацоўваць 25 мільёнаў тон нафты за год, мае вытворчыя магчымасьці для вырабу аўтамабільных алеяў і прысадак для іх (магутнасьць – 400 тон за год), абсталяваньне для вытворчасьці сыравіны для хімічнай прамысловасьці. Фактычна, кантроль над заводам азначае кантроль над усёй хімічнай прамысловасьцю, а значыць, і усёй эканомікай Беларусі.


Нафтаперапрацоўчы завод «Нафтан»

Як жа гэта адбылося?

20 сьнежня 1995 г. паміж урадам Беларусі і напаўдзяржаўнымі нафтавымі кампаніямі "ЛУКойл" ды "ЮКОС" было падпісана пагадненьне пра стварэньне сумеснага прадпрыемства на базе ВА "Нафтан". 74% акцый падзялілі паміж сабой расейскія кампаніі, і толькі 26 працэнтаў засталося на Беларусі, ды і тое зь іх толькі 40% засталося ва ўласнасьці дзяржавы, 3% – ва ўласнасьці калектыву, а рэшта была прададзеная на закрытым аукцыёне тым жа расейскім "інвестарам". Значыць, 90% беларускай нафтавай прамысловасьці належыць Расеі.

Няўжо ў ВА "Нафтан" быў такі крызіс, што не было іншага выйсьця, як прадацца? Зусім не. Нават у цяжкіх тагачасных умовах прадпрыемству ў 1993-95 гг. удалося падтрымліваць стабільную загрузку магутнасьцяў на ўзроўні 30% у год, што ёсьць амаль рэкордам нават для расейскіх нафтаперапрацоўчых заводаў. Больш за тое, вытворчасьць некаторых відаў прадукцыі ўзрасла (алеяў, напрыклад, на 10.5%, сыравіны для хімічнай прамысловасьці – на 20%). У 1996 г. "Нафтан" зарабіў 20 мільёнаў даляраў чыстага прыбытку і амаль столькі ж пералічыў у бюджэт у выглядзе падаткаў. Дызпаліва ВА"Нафтан" мае сэртыфікат якасьці ад Эўрапейскага Саюзу. Для таго, каб увайсьці ў эўрапейскія лідары, заводу патрэбны былі нейкія 400-500 млн. даляраў (для нафтавай прамысловасьці гэта сьлёзы). А завод аддалі Расеі з вантробамі.

Калі журналіст BBC папрасіў прадстаўніка кампаніі Shell у СНД пракаментаваць гэты выпадак, той пажартаваў, што калі ВА"Нафтан" каштуе 400 млн. даляраў, то пры такім курсе даляра, яго ўласны "Мэрсэдэс-600" не пацягне больш за тысячу, а потым сур'ёзна дадаў, што ў такіх выпадках нармальныя ўрады нармальных краін выстаўляюць прадпрыемствы на аукцыён, дзе за "Нафтан" можна было атрымаць ня менш за 2 мільярды даляраў.

Вось што адбываецца. Цяпер адно спадзяваньне толькі на тое, што да ўлады ў Беларусі прыйдуць рэвалюцыйныя нацыянальныя сілы і нацыяналізуюць хітра скрадзеную Расеяй нацыянальную ўласнасьць Беларусі.

А пакуль што... Пакуль што факт перадачы ВА"Нафтан" ва ўласнасьць Расеі мае і вайсковы аспект. Гэты завод будаваўся ў СССР з мэтай набліжэньня вытворчасьці асноўных відаў маторнага паліва да заходніх межаў, і асноўным спажыўцом яго прадукцыі была Беларуская вайсковая акруга, аснова сучаснага войска РБ. А гэта азначае, што кран да паліўных бакаў беларускіх вайсковых машын кантралюе Масква.

**Мікола Мельнік**

**«Барацьба за Беларускую Дзяржаву – сьвятая справа ўсяго Беларускага Народа»**

# ВЫБАРЫ БЯЗ ВЫБАРУ

Апошнія некалькі месяцаў у беларускім грамадзтве мусіруецца інфармацыя пра маючыя адбыцца увосень так званыя выбары у "палату". Але складваецца ўражаньне, што інфармацыйная плыня ўмела скіроўваецца ў пэўным напрамку. Нягледзячы на заблытанасьць інфармацыі, пакрысе пачынаюць праглядацца ніткі, якія кіруюць рухамі "палітыкаў" у вялікім спектаклі пад назвай "Парламенцкія выбары-2000". З 1996 года вядомымі палітычнымі дзеячамі і аналітыкамі напісаны сотні артыкулаў аб дзяржаўным перавароце, аб здрадзе нацыянальнім інтарэсам, аб ганебнай Канстытуцыі-96, аб марыянеткавых "палаце" і "сходзе" і аб тым, што Лукашэнка разумее перамовы і дыялёгі толькі з пазыцыі сілы. На мітынгах і дэманстрацыях зачытваліся разнастайныя заклікі, пракламацыі і рэзалюцыі, што заклікалі змагацца з "фашыстоўскім рэжымам" усімі магчымымі сродкамі. Вядомымі юрыстамі быў пералічаны тузін артыкулаў з крымінальнага кодэксу РБ, пад якія трапляе рэжым. Былі нават заклікі ісьці ў лясы і пераходзіць у падпольле.

Здавалася, што ў Беларусі нарэшце зьявіўся шанец на перамогу, калі расплюшчыліся вочы нават у тых людзей, якія калісьці прывялі да ўлады й умацавалі прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі.

Але ішоў час, а спадары "дэмакраты" замест таго, каб распачаць сапраўдную барацьбу, да якой яны заклікалі ў газэтных артыкулах і на мітынгах, пачалі яе імітацыю. Найбольш актыўнай і падрыхтаванай часткі народа, якая прымала ўдзел у палітычным жыцьці краю, пачалі навязваць загадзя асуджаныя на паразу палітычныя сцэнарыі і праекты. Нехта заклікаў ісьці ў народ, нехта раіў чакаць дапамогі ад Захаду, нехта прапаноўваў вывесьці на вуліцы 100 тысячаў, нехта бачыў панацэю ў міжнародных санкцыях і г.д.

Пастаянная прывязка да нейкіх дат ці падзей зьвязалі палітычнай апазыцыі рукі. Бясконцыя зьезды і сходы палітычных партыяў, паездкі ў Страсбургі, Стамбулы, Брусэлі, сэмінары, канферэнцыі... Тымчасам здавалася адна пазыцыя за другой. Пачалі зьнікаць людзі, адбываліся расколы ў партыях і, як вынік, пачала губляцца надзея ў хуткія перамены як у шарагоўцаў, якія былі скарыстаны ў сумніўных палітычных гульнях, так і ў так званых лідэраў апазыцыі. Перспектыва хуткага "дэмакратычнага рэваншу" згасала на вачах. Пачаліся размовы, што гэтая барацьба зацягнецца на гады. Некаторыя пачалі зьязджаць з краіны.



Маня, ты што?! Якія выбары? Байкот!!!

І тут ініцыятыву бяруць у свае рукі замежныя эмісары. Прыкрыўшыся статусам пасярэднікаў і самымі добрымі намерамі, яны распачалі лабіраваць свае інтарэсы. А нашыя "барацьбіты" за дэмакратыю, якія яшчэ некалькі месяцаў таму заяўлялі, што на Беларусі няма легітымнага кіраўніка, і ўлада ўтрымліваецца незаконна, распачалі ствараць кансультатыўныя саветы і весьці перамовы з прадстаўнікамі нелегітымнай улады. У гэты працэс актыўна ўключыліся камуністы, ЛДПБ, беларускі "Яблык" і іншыя арганізацыі, якія з'яўляюцца філіямі расейскіх партыяў і варожа ставяцца да беларускай справы. Усе гэтыя гульні выглядалі б камічна, бо аб чым могуць дамовіцца ваўкі з ягнятамі, каб за гэтым не стаяў лёс Беларусі. Стварэньне кансультатыўнага савету і спроба наладзіць перамовы – гэта толькі бачная частка айсбергу. Асноўную небясьпеку нясуць у сабе працэсы, якія адбываюцца па-за межамі афіцыйнага "перамоўнага працэсу".

У гісторыі Беларусі ўжо колькі разоў былі выпадкі, калі лёс краіны вызначалі чужынцы. І ня дзіўна: такі ласы кавалак з такой працоўнай сілай "грэх" не скарыстаць у сваіх інтарэсах. І не так важна, хто зараз іграе большую ролю ў закулісных інтрыгах – Усход ці Захад. Беларускаму Народу ад гэтага не лягчэй. Іншая справа – іх мясцовыя памагатыя, якія прэтэндуюць на ролю правадыроў Беларускага Народу і ад імя якога робяць свае справы. Гэта тычыцца як лукашыстаў, так і асобных апазыцыянераў. Паводле неправеранай інфармацыі, ужо на працягу некалькіх месяцаў спецслужбамі вядзецца вярбоўка апазыцыянераў з пэўнага сьпісу, якіх зьбіраюцца прасунуць у "палату". Рэжыму патрэбна легітымізацыя, і ён ідзе на ўсе: угаворы і фуршэты, подкуп і шантаж. Закулісныя перамовы курыруюць хлопцы з адміністрацыі. Усе, як на падбор, рэспектабельныя мужчыны, якія выдатна ўсё разумеюць і робяць выгляд, што жадаюць толькі дапамагчы заблукаўшым палітыкам. Дыялог адбываецца прыкладна па такой схеме: "Коля (Петя, Саша), ты ж нормальный мужик, должен всё понимать... Ничего не добьешься, а только жизнь себе попортишь. Президент у нас поевропейски мыслящий политик и вообще демократ. Это у него окружение из старых коммунистов. Так что выбирайся в палату и будем вместе исправлять ситуацию."

А тут яшчэ некаторыя сацыял-дэмакратычныя ўрады Эўропы падкідваюць шалёныя грошы на выбары. Ну як тут не пагадзіцца?

Але мы ня будзем судзіць людзей: іх асудзіць гісторыя. Але сёньня вырашаецца наш лёс і пакуль што бяз нашага ўдзелу. Беларусы, ці будзе месца нам на старонках той гісторыі?

**Дубовік**

**«Перадумоваю для аднаўленьня самастойнага дзяржаўнага жыцьця ёсьць руйнаваньне на беларускіх землях акупацыйнай улады, яе ворганаў і сілавых інструментаў, зьнішчэньне сыстэмы, ліквідацыя ў Беларусі ўсіх сілаў, якія абараняюць расейскі імпэрыялізм і супрацьпастаўляюцца незалежніцкім памкненьням»**

# ЧЫМ СУСТРАКАЕ НАС ЖНІВЕНЬ?

Жнівень. Што прыходзіць на думку, калі мы чуем гэтае слова? Канешне ж, у жніўні мы маем цудоўную магчымасьць адпачыць ад гораду.

На маю думку, лепей чым у бабулі на вёсцы, нідзе не адпачнеш. На вёсцы цябе абавязкова пачастуюць садавінай і гароднінай. Беларусы – народ просты і шчыры. А яшчэ яны любяць шмат працаваць, а калі шмат працуеш, то і бачыш вынік. Дрэвы, якія гадуюць дбайныя гаспадары, аддзячаць іх вялікімі чырвонабокімі сочнымі яблыкамі і жоўтымі салодкімі ігрушамі. А яшчэ каля кожнай вёскі ёсьць лясок. Там можна назьбіраць суніц, чарніц, малін і яшчэ кошык грыбоў. А колькі цікавых заняткаў на вёсцы? Добра адпачываецца ў бабулі.




Але многія беларусы пазбаўлены магчымасьці паехаць да бабулі на вёску, бо ў 1986 годзе шмат беларускіх земляў сталі непрыгоднымі для жыцьця. Наша маці-зямля стала атрутай для сваіх сыноў і дачок. Я таксама стала ахвярай той бяды. Але з Божай дапамогай я перамагла злую хваробу. І ўсё роўна раз у год я еду да сваёй бабулі, каб дапамагчы гэтай, больш непатрэбнай уладам старой жанчыне. А колькі яшчэ такіх старых і нямоглых жыве на забруджанай радыёнуклідамі тэрыторыі. Яны вельмі цяжка жывуць, бо адлучаны ад сьвету. Да іх толькі раз на тыдзень прыязджае аўтакрама. Не пасьпееў што-небудзь набыць – будзеш чакаць цэлы тыдзень. Узьнікае пытаньне: "А чаму гэтыя людзі ня зьедуць адтуль?" Мая бабуля адказала мне так: "Мы з задавальненьнем зьехалі б, але ж нам прапанавалі жытло ў Гомельскай вобласьці. Дык навошта ехаць з радыяцыі ў радыяцыю?" Вось і прыходзіцца мне ехаць да старой, рызыкуючы сваім здароўем. Яведаю, што больш за ўсё праклятая радыяцыя узьдзейнічае на цэнтральную нэрвовую і сардэчна-сасудзістую сыстэмы. А гэта прывядзе да псыхічных і сардэчных захворваньняў. І ўсё ж я еду. Вязу з сабой прадукты. Там ня бегаю босая, не хаджу ў лес. Раней я думала, што гэта мне дапаможа. Але... Прыехаўшы ў гэтым годзе туды, убачыла жудасную карціну. На лузе, дзе стаіць шыльда з надпісам "Дзейнасьць чалавека забаронена", гудуць камбайны. Тут косяць сена для кароў. Мяса і малако вязуць потым на больш-менш чыстыя тэрыторыі і атручваюць іншых людзей. Калі вы думаеце, што ў сталіцы такіх прадуктаў няма, то памыляецеся. На менскіх рынках ёсьць усё, акрамя таго, што патрэбна беларусам. А нам трэба спажываць толькі чыстыя прадукты, бо радыёактыўны стронцый назапашваецца ў нашых касьцях. Улады ўпарта маўчаць пра гэта. Маўчаць, як маўчалі тады, у 1986-м. У Менску нават немагчыма набыць дакладны дазіметр, хаця беларускія заводы іх выпрабляюць. Але гэта яшчэ кветачкі. Ад бабулі я даведалася, што ў іх ля вёскі яшчэ працуе цагельны завод. Самае жудаснае, што гэтага монстра топяць бярвеньнямі з пакінутых хат, якія "сьвецяцца" ад радыяцыі. Яго топяць, топяць, а ён робіць і робіць новыя выкіды ў паветра. І цэгла атрымліваецца таксама атручаная.

А як думаеце, куды патрапляе гэтая цэгла?!

Так... Усё цяжэй і цяжэй робіцца наша жыцьцё. Нас пазбавілі магчымасьці вывучаць праўдзівую гісторыю нашага краю, жыць па-людзкі. А тут яшчэ і экалёгія... Атручваюць нашу беларускую зямельку. А мы?... Маўчым! Мы чакаем, пакуль улада дапаможа нам. А ўлада будзе нам казаць, раскавыраўшы нагой глебу: "Дзе?! Дзе эта радзіацыя ? Я её не віжу." І будзе пасылаць моладзь на працу у зону.

Задумайцеся над словам Чарнобыль... Колькі пакут ён прынёс людзям, колькі іх памёрла? А колькі яшчэ памрэ?... Калі мы не пакінем свае ўтульныя хаты, каб бараніць сваю Бацькаўшчыну.

**Каліна**

**«Нашая Нацыя паступова зьнікае з твару планеты, яе забіваюць, падпарадкоўваючыся нейкаму д'ябальскаму пляну»**

# НАЦЫЯНАЛІЗМ І ПАТРЫЯТЫЗМ

**У беларускім грамадзтве сёньня пануюць памылковыя ўяўленьні пра такія зьявы, як нацыяналізм і патрыятызм. Зьвязана гэта са штучнай дэфармацыяй узгаданых паняцьцяў савецкай прапагандай. Затое інтэрнацыяналізм абагаўляўся бальшавікамі і навязваўся народам СССР.**

Здавалася б, некалькі гадоў таму разваліласся савецкая імпэрыя. Юрыдычна Беларускі Народ атрымаў незалежную дзяржаву. Паступова адбываецца зварот да традыцыйных каштоўнасьцяў і сапраўднай беларускай гісторыі. Але і сёньня мы працягваем жыць пад уладай памылковых уяўленьняў пра саміх сябе, пра некаторыя зьявы нашага жыцьця. Так, у прыватнасьці, шырока распаўсюджана меркаваньне пра нацыяналізм, як заганную зьяву. На самой жа справе, эмацыйны нацыяналізм уласьцівы кожнаму чалавеку і зьяўляецца натуральным праяўленьнем любові да свайго народу. Праўда, ступені і формы праяўленьня нацыяналізму бываюць розныя. Хтосьці зьяўляецца аматарам нацыянальнай футбольнай зборнай, хтосьці любіць беларускую літаратуру або радуецца дасягненьням беларусаў у культуры, навуцы, палітыцы… А хтосьці любіць саму крыніцу існаваньня – сваю Нацыю, шануе яе здабыткі, усьведамляе сваю адказнасьць за яе будучыню. Але ўсіх нас яднае тое, што мы адчуваем асаблівую прыязнасьць да свайго, беларускага. Мы адчуваем гонар за посьпехі Нацыі ва ўсіх сфэрах жыцьця, альбо горыч за яе паразы. Прычынай нацыяналізму зьяўляецца ўсьведамленьне прыналежнасьці да супольнасьці, што мае сваё паходжаньне, гісторыю разьвіцьця, асаблівасьці культуры, мовы, сьветапогляду. Супольнасьці, што мае асаблівы менталітэт, нацыянальны характар. Урэшце, расавыя адрозьненьні.

Па-за межамі нацыі (той ці іншай) чалавек не можа паўнавартасна жыць. Толькі ў межах нацыянальнай супольнасьці, у якой народжаны, узгадаваны, чалавек здольны максымальна выявіць свае здольнасьці. Дадзеныя этнапсыхалёгіі і псыхалінгвістыкі пераканаўча сьведчаць, што найбольш поўнае выяўленьне патэнцыялу чалавека адбываецца толькі ў нацыянальным (родным) асяродзьдзі, ды праз родную мову. Таму, калі чалавек не мае нацыянальнага стрыжня ў душы, не ўсьведамляе свайго прызначэньня на зямлі, не ставіць перад сабою грамадзкакарысных мэтаў, то ў перспектыве губляе ўсё.

Сьветапоглядны нацыяналізм – шматгранная зьява, яна ўключае ў сябе і пачуцьцё патрыятызму. Патрыятызм – гэта менавіта пачуцьцё, якое мае часавыя межы. Нацыяналізм жа – сьветапогляд. Гэта і сыстэма каштоўнасьцяў, у якой першае месца належыць Нацыі і сьлядам яе творчасьці. Сьветапоглядны нацыяналізм адрозьніваецца ад эмацыйнага трываласьцю, пастаянствам. Гэта нацыяналізм сталы, які абапіраецца на такія каштоўнасьці, як нацыя, сям'я, асоба. Ён мае сваю сыстэму поглядаў на жыцьцё. Нацыяналізм заўсёды незалежніцкі, бо накіраваны на разьвіцьцё і прагрэс. Толькі тады народ дасягае посьпехаў, калі становіцца народам дзяржаўным, народам-гаспадаром. Таму высілкі беларускага нацыяналістычнага руху сёньня скіраваны на здабыцьцё Беларускай Незалежнай Нацыянальнай Дзяржавы. Для дасягненьня гэтай велічнай мэты нястомна б'юцца сэрцы беларускіх нацыяналістаў. Яны павінны разбурыць яшчэ шмат мітаў, што пануюць у сьвядомасьці беларусаў. Павінны знайсьці паразуменьне з Беларускім Народам, у імя якога яны жывуць, якому служаць.

**Вашкевіч**

# Увага! Конкурс!

З гэтага нумару рэдакцыя "Голасу Краю" пачынае друкаваць лагатыпы беларускіх газэтаў і інфармацыю пра іх з мэтай пашырэньня аўдыторыі чытачоў беларускай прэсы. Гэта паспрыяе распаўсюджаньню праўдзівай інфармацыі пра беларускія выданьні і дапаможа беларусам пазбавіцца ад інфармацыйнай ізаляцыі, ад аднабокасьці ў падачы падзей з боку расейскіх СМІ.

Беларускія газэты мусяць быць папулярнымі, таму што яны служаць інтарэсам беларусаў.

**Легенда беларускага друку**

Выдаецца з 1906 г.

**НАША НІВА**

**ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА**

Конкурс адчыняе газэта "Наша ніва".

Заклікаем далучацца да праекту ўсе беларускія выданьні. Дасылайце на адрас рэдакцыі "Голасу Краю" сваю прадукцыю. Распаўсюджвайце інфармацыю пра конкурс.

Шаноўныя чытачы, запрашаем вас прыняць актыўны ўдзел у конкурсе. Дасылайце ў рэдакцыю свае лісты.

Па выніках конкурсу будзе складзены адмысловы рэйтынг папулярнасьці беларускіх газэт.

**Рэдакцыя**

**«Нацыяналізм – сымбаль свабоды, а шавінізм – сымбаль рабства»**

сустрэчы

# «Патрыёты на Беларусі ёсцьць»

Спадар "Сьнежань", які доўгі час знаходзіўся ў замежжы, выказаў свае думкі пад час сустрэчы з сябрамі СПА "Край".

Спадар "Сьнежань" характарызуе сучаснае становішча на Беларусі як крытычнае: эканоміка знаходзіцца ў глыбокай эканамічнай яме, Беларускі Народ апынуўся на мяжы біялагічнага выжываньня, у краіне пануе духоўны Чарнобыль, насельніцтва мэтанакіравана спойваецца... Гэтыя думкі сп. "Сьнежня" адпавядаюць погляду СПА "Край".

**- Спадар "Сьнежань", што трэба рабіць, калі Радзіма фактычна знаходзіцца ў стане акупацыі?**

- Патрэбна гартаваньне маладых патрыятычных сілаў, якія б маглі бараніць народ, а ў патрэбны момант выступіць супраць маскоўска-бальшавіцкай навалы. Нашыя магчымасьці, на жаль, вельмі абмежаваныя. Але людзі, сапраўдныя ахвярныя патрыёты, на Беларусі ёсьць. У гэтым я пераканаўся пры сустрэчы з сябрамі СПА "Край". Аднак, не хапае сродкаў на выдавецкую справу, на стварэньне матэрыяльнай базы. У гэтым сэнсе нам магла б дапамагчы беларуская дыяспара, альбо сапраўды беларускія камерцыйныя структуры. Але беларуская дыяспара, у адрозненьне ад украінскай, армянскай і інш., вельмі бедная, а беларускія камерцыйныя структуры душацца рэжымам Лукашэнкі. Таму трэба спадзявацца толькі на сябе і на самыя сьціплыя магчымасьці. Такая рэальнасьць. Захад, як мне добра вядома, нам дапамагаць не зьбіраецца да таго часу, пакуль мы, беларусы, не здабудзем уладу. Але мы мусім быць аптымістамі: сам факт існаваньня такой арганізацыя як "Край" сьведчыць аб тым, што ў нас зьявіліся людзі, якія не на словах, а на справе рэалізуюць нацыянальную ідэю. Я ўсьцешаны гэтым фактам і глыбока ўпэўнены, што ў арганізацыі "Край" вялікая будучыня. Жадаю яе сябрам мужнасьці, веры і перамогі. Хацелася б выказаць падзяку "Голасу Краю" за зьмястоўную і надзвычай патрэбную інфармацыю для фармаваньня самасьвядомасьці беларуса, сапраўднага грамадзяніна і патрыёта. У сувязі з гэтым было б вельмі пажадана павялічыць наклад газэты.

Напрыканцы сустрэчы спадар "Сьнежань" паабяцаў даваць для газэты матэрыялы, якія ён адшукаў у прыватных архівах эмігрантаў і падараваў сябрам СПА "Край" сваю песьню, складзеную на чужыне.

**Гутарыў Валковіч**



Зьвярнуўшыся ў рэдакцыю «Голасу Краю», вы яшчэ можаце набыць брашуру «Беларуская партызанка» С.Ярша.

Шукаем зьвесткі пра ўдзельнікаў антыбальшавіцкай партызанкі часоў Другой Сусьветнай вайны.
Рэдакцыя

Шаноўныя чытачы! З мэтай пашырэньня колькасьці сталых чытачоў працягваецца падпіска на нашае выданьне. Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» – газэту беларускіх нацыяналістаў. Адрас рэдакцыі:
**220037, г.Менск, а/с49**

Вы можаце набыць брашуру «Нацыяналізм у сьвеце» (ч.1), зьвярнуўшыся на адрас:
**220037, г.Менск, а/с 49**

Жадаючых весьці прапаганду ідэяў беларускага нацыяналізму, далучыцца да дзейнасьці СПА «Край», просім пісаць на адрас:
**220037, г.Менск, а/с 49**



**Запрашаем да супрацоўніцтва журналістаў і тэхнічных адмыслоўцаў**

**Вялікі дзякуй за дапамогу ў выданьні гэтага нумару спадару А. і спадару П.**

Газэта «Голас Краю» заснавана спартова-патрыятычнай арганізацыяй «Край». Год заснаваньня 1999. Рэдактар Яўген Садоўскі.

Рэдакцыя не заўсёды падзяляе меркаваньні аўтараў. Перадрук матэрыялаў толькі з дазволу рэдакцыі газэты

Адрас для ліставаньня: 220037, г.Менск, а/с 49
e-mail: spa_kraj@hotmail.com